# З усяе Беларусі.

## Маладэчына, Вялейскага пав.

Побач з нашым мястэчкам Маладэчынам ёсьць двор Тышкевіча, які ў апошнія гады перайшоў у рукі другога абшарніка, пана Заянчкоўскага. На акрайках зямлі гэтага пана ўжо гадоў 20 з лішнім жывець чалавек 30 дробных арэндатараў, якія маюць па 1/8 дзесянціны зямлі і якія аднавілі кантракт на новыя 12 гадоў арэнды ў 1918 годзе, г. зн. да 1930 г. ужо з новым уласьнікам Заянчкоўскім, з платай па 20 руб. ў год.

Зямля гэтая раней была пад кустамі, балотная; арэндатары, пабудаваўшыя там ў першых гадох свайго арэндаваньня, вырабілі яе цяпер на агародную. У 1920 годзе арэндатары ўнесьлі Заянчкоўскаму па 20 мар. п. кожны, па згодзе з ім-жа у 1921 г. ўнесьлі яму па 80 мар.; у 1922 г. гэны пан запатрэбаваў ужо па 40.000 м. п. і чалавекі 3 арэндатароў нават унесьлі было яму гэную плату, а рэшта не маглі заплаціць такой вялікай сумы. Цяпер пан Заянчкоўскі вымагае ад іх за 1922 г. па 350.000 м. п. і за 1923 г. з усіх таксама па 350.000 м. п.

Бядуюць няшчасныя арэндатары, бачучы надзвычайную прагавітасьць, шалёныя панскія апэтыты. Гэта-ж ня жартачкі — за 1/8 дзесяціны арэнда ў год 350.000 м. п.; за цэлую дзесяціну гэта-ж вынясе 2.800.000 м. п.

Ня хочуць лічыцца, відаць, польскія паны-абшарнікі з польскімі-ж законамі аб арэндатарах, бо калі за 1/8 дзесянціны ён ня мае права браць па закону з усімі дадаткамі ня больш 15.000 м. п., дык ён, паневяраючыся над бедным арэндатарам, патрабуе з яго ня больш - ня менш як у 23 разы болей.

**Маладачанін.**

## М. Раванічы. (Ігуменшчына).

Вялікі парк. Там-сям параскіданы быўшага пана будынкі (а ў самым пакоі зьмяшчаецца канцэлярыя ляьнічага, упраўляючага саўхозам, клюб і інш.); праз дарогу відаць гэтак сама нейкія яшчэ добрыя і цэлыя будынкі, а каля іх чарада людвей: бегаюць, длубаюцца, ну, як, напрыклад, мурашкі ў мурашніку. Тут падвозяць калодкі, скідаюць, падаюць, а з другога канца адвозяць ужо дошкі.

Шэрагі сялянскіх фурманак, гурт добрых хваёвых калод, а ўбаку на падмостках працуюць пілы. Як плюнуць, рэжуцца дошкі. Работа кіпіць.

Працуе добра пастроены лёкамабіль. Гэты лёкамабіль быў у саўхозе Шыпяны і жаднае карысьці ня прыносіў, стаяў ды й толькі. А тут яго пастроілі і пусьцілі ў ход. Усё гэта праца тутэйшага ўпраўляючага С. Рысяўца.

Заходжу ў школу. Яна зьмяшчаецца ў досыць добрым цёплым будынку. Школа абсталёвана добра і чыста, кватэра настаўніка нават з камфортам. Цеплата. Дровы ёсьць.

Есьць і клюб. Добра зробленая сцэна, здавальняючая заля. Прабавалі чытаць па розных пытаньнях лекцыі.

Канцэлярыя ўпраўляючага саўхозам гэтак сама робіць добрае ўражаньне. Адным словам, справа стаіць пакуль што добра.

**М. Ніканові́ч.**

## У Полацку.

Посьле чатырохмесячнай зімовай працы ў Полацку праз раку Дзьвіну пабудаваны чыгуначны мост у кірунку на Маладэчна. Першы цягнік адыйшоў пры ўрачыстай абстаноўцы.

## Бел. культура у Магілеускім Ін-це.

У Магілёўскім інстытуце народнае асьветы беларуская культурная праца пачынае памалу разьвівацца і ўваходзіць у сталыя, пэўныя формы. У сучасны момант яна вядзецца вось у якіх напрамках і выглядах.

Першым чынам у праграму інстытуту ўведзена выкладаньне беларусазнаўства. Лекцыі па беларусазнаўству, якія чытае Д. І. Даўгялла, адбываюцца спраўна і досыць цікавяць студэнтаў. Адзіная нястача, што ў курс беларусазнаўства не ўваходзіць беларуская мова. Тлумачыцца гэта тым, што ў Магілёве няма лектара добра ведаючага беларускую мову.

Сярод самых студэнтаў прыкмячаецца рух да працы па разьвіцьцю роднае культуры. Есьць беларуская асацыяцыя студэнтаў, на чале якой стаіць даволі энаргічны і здольны студэнт Макар Выдрыцкі. Асацыяцыя налічвае ў сваім складзе блізка 70 сяброў. Яна падзелена на колькі сэкцыяў, але сэкцыі гэтыя працуюць слаба. Наогул праца асацыяцыі пакуль што выяўляецца галоўным чынам у дакладах, дыспутах па розных пытаньнях беларускае культуры, якія ставяцца даволі часта і праходзяць жвава. Зрэдка ставяцца беларускія спэктаклі.

**М. З.**

## Юрацішская гм. (Валожынскага пав.).

У мяст. Трабах у рэстарацыі асаднікі з дв. Бокшышкі напалі на сялян в. Загорцы Антона і Янку Альшэўскіх, бацьку і сына, пры гэтым бацьку выкруцілі правую руку, а сыну парэзалі нажом плячо і рукі. Альшэўскіх арыштавалі і адправілі на пастарунак, але потым іх звольнілі, і цяпер яны ўжо сёмую нядзелю хварэюць і ня могуць узяцца за працу. Асаднікаў міравы судзьдзя прыгаварыў на 5 дзён арышту.

Гаспадар з в. Яросьмішкі Вастрамецкі варочаўся з м. Траб дамоў; па дарозе дагнаў яго асаднік з дв. Бокшышкі і абабіў каменем.

Асаднікі-ж з гэтага двара дагледзялі, як селянін в. Баруцішкі Альшэўскі прадаў на рынку карову за 1.000,000 марак і паехаў да хаты. Як толькі выехаў за мястэчка яго дагналі асаднікі і хацелі адабраць грошы, але грошы былі далёка схаваны, і пакуль яны валтузіліся, але хтосьці даў знаць паліцыі, якая абараніла Альшэўскага і арыштавала асаднікаў, але праз паўгадзіны іх звольнілі. Альшэўскі атрымаў 12 ранаў нажом. Усе мяйсцовыя жыхары страшэнна абураны павядзеньнем асаднікаў і стэрарызаваны імі. Яны ўвесь час раз'ежджаюць з карабінамі, нажамі і равальверамі і ня дай Божа спаткацца з імі у дарозе! Калі-ж урэшце мы пазбавімся гэтай скулы! Хоць бы хто з пасloў прыехаў ды паглядзеў, што тут у нас робіцца!

**Ст. Чытруновіч.**

# З беларускага жыцьця.

— 18 сакавіка адбыўся ліквідацыйны сход беларускага каапэратыву „Райніца“. Засновываецца новы каапэратыў „Сноп“.

— Новая кніга. У Менску вышла новая беларуская кніга Зьмітрака Бядулі „На зачараваных гонях“ зборнік апавяданьняў.

## Арышты белрускіх вучыялёў.

Арыштована беларуская вучыцелька вёскі Рускае Сяло Аўгенія Занько і вучыцель Бурак.

## Мітынг ў Маладэчыне.

28 гэтага сакавіка адбыўся беларускі мітынг у нашым месьце. З прамовамі выступалі беларускія паслы Варшаўскага Сойму Пётра Мятла і Сымон Рак-Міхайлоўскі. Дзякуючы рынкаваму дню і таму, што абвесткі аб мітынгу былі загадзя расклеены па вуліцах места, на мітынг сабралася кала 2000 асоб. Прамоўцы-паслы, інфармуючы аб працы ў Польскім Сойме Беларускага Пасольскага Клюбу, аб яго тактыцы і аб адносінах да сучаснага Ураду, заклікалі беларускую люднасьці да арганізацыі ў мэтах абароны сваіх правоў.

Горача вітаны былі праз нас нашы выбраньнікі, бо іхны прыезд, іхныя сьмелыя і вострыя прамовы раскрываюць нам сумную сучаснасьць, падтрымоўваюць нашую энэргію, нашыя сілы ў змаганьні з бяспраўем, ўносяць ў нашую сялянскую сямью сьвятло надзеі на лепшую будучыну.

**Баўтручонак.**

# Беларусы у Латвіі.

(ад уласнага карэспандэнта).

## † Ян Харлап.

У ваўторак 20 сакавіка беларускае грамадзянства м. Дзьвінску з сумам праводзіла, аплаківала і пахаўтурыла Ганаровага Старшыню Таварыства „Бацькаўшчына“, Гр. Яна Харлапа.

Нябошчык 32 гады працаваў вучыцелем і памёр ад сухотаў.

Яго былыя і цяперашнія вучні, а таксама вучні беларускае Дзьвінскае пачатковае школы і Гімназіі, слухачы Вучыцельскіх Курсаў і сябры вучыцелі дружнай грамадой явіліся аддаць нябошчыку апошняе прывітаньне.

Было шмат вянкоў, сярод якіх выдзеляўся дубовы вянок ад Т-ва „Бацькаўшчына“.

На магіле было сказана некалькі прамоў.

Ад імені Т-ва сказаў прамову сучасны Старшыня Праўленьня Гр. Красноўскі.

Пахавалі Яна Харлапа побач з яго сынам, памершым летам мінулага году.

Беларускія стужкі вянкоў прыкрылі абедзьве беларускія магілы.

Пасьля нябошчыка асталася жонка і 3-е дзетак вучняў.

## Беларускія вечарыны ў Дзьвінску.

У суботу 17 і ў нядзелю 18 сакавіка адбыліся ў Дзьвінску беларускія вечарыны.

Першая рабілася Вучыцельскім Гуртком Беларускае Гімназіі і прайшла ня усім гладка. Гуртку варта-б было зьвярнуць больш увагі на падгатоўку і больш стараньня і загадзя паведамляць жыхарства.

Другая вечарына рабілася Беларускай Сялянска-Гаспадарскай школай. Як пьеса, гэтак і хор, у якіх прыймалі ўдзел слухачы Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў і вучні гімназіі, былі спатканы публікай дужа цёпла.

Варта адзначыць гульню грамадзянкі Мікалаевай, якая заўсёды вядзе свае ролі са шчырым настроям і добрай падгатоўкай.

У хоры выдзеляюцца добрымі галасамі гр. гр. Бедарава, Мікалаева, Карнавухі і Трубецкая.

Кіруе хорам і аб'еднанай драматычнай дружынай гр. Паўліна Мядзіолка-Грыб.

## Цягнуць брахуноў у суд.

Інспэктар Беларускіх Школ, гр. К. Езавітаў, падаў Пракурору Вакружнога Суду заявы, каб пацягнуць да суду Рэдактара газэты „Рыжскій Курьер“, Д. Забароўскага, і члена Сойму Ф. Кемпса за дапушчаную імі ганебны паклёп ў прэсе на беларускую справу і беларускіх дзеячаў у Латвіі.

Аналёгічныя заявы, аднычасна з ім, падалі яшчэ грамадзяне С. Сахараў і Мурнік.

# З Менску.

## Перавод мітрапаліта Мельхісэдэка.

Вышэйшая царкоўная ўправа праваслаўнай царквы пастанавіла мітрап. Беларусі Мельхісэдэка перавясьці на Петраградзкую катэдру.

## Польска-беларускі слоўнік.

Альбэртам Паўловічам у сучасны момант, пасьля працягу чатырох-гадовай працы, закончана ўлажэньне польска-беларуска-расейскага слоўніка, які будзе мець каля 40 тысяч беларускіх слоў з тлумачэньнем іх на польскай і расейскай мовах.

Але аўтар слоўніка ня спыняець сваёй працы і маець на ўвазе прыдаць свайму слоўніку агульна-слявянскі характар, далучыўшы словы украінскай, чэшскай і сэрбскай моваў, паклаўшы ў аснову беларускую мову, як мову народа, захаваўшага дагэтуль, у параўнаньні са ўсімі слявянскімі плямёнамі, найбольш характэрных славянскіх асобнасьняў.

І ў гэтай справе Паўловіч зьвярнуўся да вядомага філёлёга славянскіх моваў акад. Карскага для атрыманьня неабходных крыніц, якія адсутны ў Менску.

**А. Ш.**

# Да моладзі вёсак, мястэчак і гарадоу.

Дзіўна дзеіцца на сьвеці. Тое, што так упорна адкідывалі нашыя ворагі — істнаваньне народу беларускага — прапала. На таго, хто гэтак гаворыць глядзяць быццам на вар'ята ці дурня. Прадстаўнікі нашага народу адваявал нам гэнае права: Беларусам-людзьмі зівацца. Першы этап у гэтым напрамку пройдзены. Гісторыя Беларусі злучылася ў апошніх сваіх падзеях так стульна з гісторыяй сусьветнай, што глянуўшы з аднога боку ў сьвет, зараз убачыш аналёгію да самых сябе, зараз убачым, што тое, што мы робім, пачынаюць і іншыя народы.

Сусьветная вайна зруйнавала ўсе фундаманты жыцьця грамадзкага, нацыянальнага і дзяржаўнага. Кожная нацыя па вайне пачала рабіць агляд сябе, сваіх сілаў, імкненьняў і мэтаў. І ў першы чарод была тут закранута моладзь. Бо моладзь або была скумячана надта моцна вайною і цяпер пачала выпрастоўвацца, ці зноў іншая частка прышла да таго, што стварыла вайна і спаткалася з пэўнымі фактамі, якія прыняла, або пачынала барацьбу з імі, барацьбу на жыцьцё і сьмерць. Гэта бачылася па ўсём сьвеці. І ня дарма, бо моладзь гаворыць за тое, якім будзець народ і дзяржава...

Беларуская моладзь мо крыху спазьнілася, мо абставіны ў яе былі іншыя, што яна непраявіла свайго голаса да гэтае пары. Мо яна дужала, ўзмацоўвалася, яна праўда часта рабіла пэўныя ня заўсёды шчасьлівыя спробы весьці сваё жыцьцё. Было дрэнна, бо ня было еднасьці, ня было супольнае згоднае працы і змаганьня, ня прышла часіна, калі ўсе зразумелі, што ў арганізацыі сіла і моц!.. Што грамада толькі дасьць магчымасьць змагацца і працаваць дзеля сваіх ідэалаў...

Пара гэтая кончыцца. Неабходнасьць сконцэтраванай, злучанай працы стала ясною і зразумелаю для ўсіх. Пачынаюцца рабіць першыя крокі дзеля аб'еднаньня ўсіх істнуючых арганізацыяў моладзі да гэтае пары і арганізаваць новыя гурткі. Віленская беларуская моладзь зразумела, што на ёй у першым чарадзе ляжыць адказнасьць за ўсю працу і з усею павагаю і пракананьнем узялася за работу. Арганізуюцца ў Вільні курсы, маючыя на мэці гэтую самую вось думку, быў апрацованы і пададзены на легалізацыю статут, які дасьць магчымасьць нікога не баючыся, зусім сьмела заняцца арганізацыяю моладзі.

І мы верым, што наша праца будзець зразумелай для вёскі беларускае мястэчак і гарадоў. Думаем, што ўсе, каму на сэрцы ляжыць разьвіцьцё нашага краю і народу — злучацца з намі. Тады будзем дужыя, тады нас ніхто ня зглуміць.

*Арганізацыйная камісія курсаў і Цантральнага Саюза беларускае моладзі.*

## Замест Вялікодных візытаў.

На карысьць культурна-прасьветнай дзейнасьці Віленскага Беларускага К-ту Помачы пацярпеўшым ад вайны.

Красінскі М. — 5000 м.
Рак-Міхайлоўскі — 5000 м.
Міхалевіч — 5000 м.
Трэпка — 10000 м.

## Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня,** Віленская вул. № 12 кв. 6.
2) **Ліда,** II Слабодка № 8 сэкрэтар Калясінскі.
3) **м. Глыбокае,** Дзісьненскага павету, вул. Сенкевіча № 46.
4) **Жодзішкі,** Сьвенцянскага пав. кс. Годлеускі.
5) **Наваградак,** Вялікі Рынак 14, сэкр. Ян Віруковіч.
6) **Нясьвіж,** Альбянская 28, сэкр. Ян Шнаркевіч.
7) **м. Стоупцы,** Шпітальная, 22. Г. А. Сабалеускі.
8) **Баранавічы.**
9) **Горадня,** Мастовая 9.
10) **Валкавыск,** Пясковая 14.
11) **Бельск,** Замкевая вул. № 3. кв 1 сэкр. Канстанцін Карыцкі.
12) **м. Саколка,** Горадзенская вул., № 34.
13) **м. Клешчэлі,** Бельск. павету, вул.
14) **м. Крынкі,** Горадзенскага павету, Горадзенская вул. № 34.
15) **Пружаны,** вул. Дамброускага № 29.



Рэдактар-Выдавец **Я. Лагіновіч.**

Друкарня Крайнес і Кавальскі, Вялікая вул., № 39.